**І ГЭТА ТАК!**

# Гомельскія НАВІНКІ

**Жоўтая газетка на роднай мове** **Жнівень 2015**

**Першае 100% цалкам беларускамоўнае выданне Гомельскага рэгіёну**

## Як 20-гадовая маці-адзіночка гадуе пяцярых дзяцей, альбо Пяць цікавых фактаў пра беларускія сем’і




стар. 2

### І зноў жанчына зарэзала мужчыну: забойства у Гомельскім скур-вендыспансеры

стар. 3

### На 20 млн аштра-фавалі жыхара Светлагорска за паход у магазін голым

стар. 5

### Айчынны спорт – па-беларуску

стар. 7

# Як 20-гадовая маці-адзіночка гадуе пяцярых дзяцей, альбо Пяць цікавых фактаў пра беларускія сем'і

***Белстат апублікаваў статыстычны зборнік, прысвечаны дэмаграфічнай сітуацыі ў краіне за 2014 год. «Наша Ніва» знайшла цікавыя факты пра беларускія сем'і.***

*Няроўныя шлюбы*

Паводле статыстыкі, мужчыны першы раз ідуць у ЗАГС у 27,4 года, жанчыны — у 25,3 года. Аднак бываюць і рэдкія гісторыі.

Летась быў зарэгістраваны шлюб паміж нявестай студэнцкага веку (20—24 гады) і пенсіянерам. Была і адваротная сітуацыя: муж-студэнт (20—24 гады) і жонка-пенсіянерка (55—59 гадоў).

Што рухала гэтымі парамі, каханне ці размеркаванне?

*Разведзеныя непаўналетнія*

Вялікая колькасць шлюбаў рана ці позна заканчваюцца разводамі. Праз 12—13 гадоў сямейнага жыцця людзі знаходзяць сабе іншыя пары.

Здараецца, што раннія шлюбы працягваецца зусім мала часу. Летась скасавалі свой першы шлюб 15 непаўналетніх дзяўчат (да 18 гадоў).

Многія адразу ж ідуць у ЗАГС з новым партнёрам. Было зафіксавана 30 зусім маладых нявест (18—19 гадоў), якія ўжо мелі жыццёвы досвед у выглядзе няўдалага сямейнага жыцця. Такіх самых маладых жаніхоў было ўсяго трое.

*Нараджаюць усё пазней*

Беларусы не спяшаюцца заводзіць дзяцей. З кожным годам узрост сярэднестатыстычнай маці павялічваецца.

Першае дзіця цяпер нараджаюць у 25,7 года (праз некалькі месяцаў пасля першага шлюбу).

Для параўнання, у 1990-ыя нараджалі ў 23 гады.

Змяніўся і ўзрост уступлення ў шлюб. У 1985 годзе ён быў 22 гады для мужчын, 20 — для жанчын. За 30 гадоў ён вырас на 5 гадоў.



*Пяцёра дзяцей у дваццацігадовай маці-адзіночкі*

Дзяржава заахвочвае маладых беларусаў ствараць вялікія сем'і, не спыняючыся на адным дзіцяці.

Адна дзяўчына, маладзейшая за 20 гадоў, ужо мае пяцярых дзяцей! Гэтая маладая мінчанка - маці-адзіночка.

Яе выпадак — першы ў Беларусі ад пачатку стагоддзя. У такім узросце такой колькасці дзяцей яшчэ не было.

*Пазашлюбныя дзеці*

Агулам у Беларусі кожнае сёмае дзіця (15%) нараджаецца па-за шлюбам.

Прычым розніца паміж заходнімі і ўсходнімі абласцямі велізарная. На Брэстчыне і Гродзеншчыне доля такіх дзяцей - каля 11%. Столькі ж у Мінску.

А вось на Гомельшчыне, Віцебшчыне і Магілёўшчыне маці-адзіночкі сустракаюцца часцей — 18-19% ад усіх родаў.

*Ягор Марціновіч*

Тры браты-ірландцы мелі традыцыю: раз на тыдзень яны ішлі ў паб і выпівалі па пінце піва. Прайшоў нейкі час, і адзін з братоў з'ехаў у Амерыку. Тады два браты пачалі браць тры пінты на дваіх. Потым і яшчэ адзін брат з'ехаў - у Аўстралію. Трэці брат быў вымушаны выпіваць кожны раз ужо па тры куфлі.

Аднойчы ён прыйшоў у паб і замовіў толькі два куфлі піва. Бармэн са смуткам кажа яму:

- Мне вельмі шкада, спачуваю Вашай трагедыі.
- Якой трагедыі? - здзівіўся ірландзец.
- Ну, Вы ж выпіваеце па куфлі піва за кожнага свайго брата, вось я і падумаў...
- Ды не, усё нармальна. Першы куфаль я ўздымаю за брата ў Амерыцы, другі - за брата ў Аўстраліі, а сам я кінуў піць.

# Беларусы — еўрапейскія рэкардсмены па разводах СТАТЫСТЫКА

***Летась у Беларусі пабраліся шлюбам 83 942 пары, але пры гэтым 34 864 сем'і прыйшлі ў ЗАГС, каб афіцыйна разарваць адносіны.***

Каэфіцыент разводаў у Беларусі склаў 3,7 (колькасць разводаў на 1000 чалавек насельніцтва).

Гэта найвышэйшы паказчык сярод краін, якія цалкам знаходзяцца ў Еўропе.

Беларусы саступаюць у гэтай намінацыі толькі Расіі, дзе каэфіцыент дасягае 4,7.

У балтыйскіх краінах сем'і летась былі крыху мацнейшыя — у Літве (3,4) і Латвіі (3,2).

А вось у Польшчы, дзе касцёл мае вялікі ўплыў на грамадства, фіксуецца ўдвая менш разводаў, чым у балтыйскіх краінах.

Уяўляе інтарэс і розніца паміж рэгіёнамі Беларусі. Самыя трывалыя сем'і на Брэстчыне і Гродзеншчыне (3,2 і 3,4 адпаведна). На Міншчыне і Віцебшчыне - 3,7. Найбольш разводаў на Магілёўшчыне і Гомельшчыне (3,8).

Мінск стаіць у рэйтынгу асобна. У сталіцы летась было зарэгістравана 4 разводы на 1000 чалавек.

*Ягор Марціновіч*

# І зноў жанчына зарэзала мужчыну: забойства у Гомельскім скурвендыспансеры

***11 жніўня ў Гомельскім абласным клінічным скурна-венералагічны дыспансеры адбылося забойства. Як паведаміла афіцыйны прадстаўнік УСК па Гомельскай вобласці Марыя Крываногава, адна з пацыентак ўстановы аховы здароўя забіла 45-гадовага мужчыну, які таксама праходзіў тут лячэнне.***

Падазраваная — 29-гадовая жыхарка Лоева, забіты — жыхар Гомеля. Падазраваная спасылаецца на тое, што была п'яная і нічога не памятае.

Паводле папярэдняй інфармацыі, вечарам 11 жніўня пацыенты сустрэліся на лесвічнай пляцоўцы паміж пятым і шостым паверхам дыспансера і пасварыліся. Жанчына нанесла сваёй ахвяры нажом некалькі раненняў у грудзі і пайшла да сябе ў палату. Мужчына спусціўся на пяты паверх і папрасіў у медперсанала дапамогі, але выратаваць яго ўжо не ўдалося.

Вядзецца следства.

*Алена Германовіч, БелаПАН*

# У Гомельскім раёне 25-гадовы хлопец у сварцы забіў сябра сваёй маці

***У пасёлку Бальшавік Гомельскага раёна затрыманы 25-гадовы мясцовы жыхар па падазрэнні ў забойстве знаёмага сваёй маці, паведаміла афіцыйны прадстаўнік Гомельскага абласнога ўпраўлення Следчага камітэта Марыя Крываногава.***

Інцыдэнт адбыўся 10 жніўня ў кватэры, дзе пражывае маці з сынам. У гэты дзень у іх было двое гасцей — знаёмых гаспадыні дома. Разам выпівалі. Пасля застолля разышліся па пакоях. Сын раптам вырашыў вярнуцца да маці, якая засталася з адным са сваіх знаёмых. Паміж мужчынамі ўспыхнула сварка. Хлопец на кухні знайшоў нож, якім і нанёс удар крыўдзіцелю.

39-гадовы госць ад атрыманых траўмаў памёр на месцы. У дачыненні да падазраванага распачата крымінальная справа па ч.1 арт.139 Крымінальнага кодэкса «Забойства». Прызначаны шэраг экспертыз.

*БелТА*



## У Мазыры перакуліўся «БМВ»: пасажыр загінуў, кіроўца пакінуў месца ДТЗ

***У выніку перакульвання аўтамабіля «БМВ» у Мазыры загінуў пасажыр, кіроўца пакінуў месца здарэння.***

Як паведамілі ва УДАІ УУС Гомельскага аблвыканкама, 1 жніўня позна вечарам кіроўца 1989 года нараджэння рухаўся па вуліцы Малініна. На закругленні дарогі ён не справіўся з кіраваннем і наехаў на бардзюрны камень, пасля чаго перакуліўся. Пасажыр «БМВ» 1988 года нараджэння атрымаў цялесныя пашкоджанні і быў шпіталізаваны ў бальніцу, дзе праз некалькі гадзін памёр, не прыходзячы ў прытомнасць. Пасажыр не быў прышпілены.

Кіроўца аўтамабіля пакінуў месца ДТЗ, але падчас правядзення аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў раніцай 2 жніўня быў знойдзены і затрыманы.

*БелаПАН*

## П'яны ўкраінец у Гомелі ўцякаў ад ДАІ на крадзеным мікрааўтобусе

***11 жніўня а 2-й гадзіне ночы на вуліцы Яфрэмава ў Гомелі інспектары ДАІ паспрабавалі спыніць мікрааўтобус «Форд-Транзіт». Аднак кіроўца кінуўся ўцякаць ў бок Доўска па аўтадарозе М8 Гомель — Віцебск.***

Як паведамляе БелаПАН, даішнікі пачалі пераслед мікрааўтобуса і з дапамогай гукавой і светлавой сігналізацыі загадалі яму спыніцца. Аднак кіроўца працягваў толькі павялічваць хуткасць і віляў па ўсёй шырыні дарогі, выязджаючы нават на паласу сустрэчнага руху, каб яго не змаглі абагнаць.

У вёсцы Гарадок Кармянскага раёна кіроўца з'ехаў у кювет. Выскачыўшы з мікрааўтобуса, ён паспрабаваў збегчы з месца здарэння, але яго дагналі супрацоўнікі ДАІ.

Выявілася, што за рулём быў 24-гадовы непрацуючы п'яны грамадзянін Украіны. Сам мікрааўтобус апынуўся крадзеным.

На кіроўцу склалі восем адміністратыўных пратаколаў і пачалі крымінальную справу. Яго ўзялі пад варту.

*БелаПАН*




## Пад Мікашэвічамі па віне п'янага кіроўцы перакуліўся МАЗ з бітумам

***На 319-м кіламетры аўтатрасы Гомель—Кобрын, пад Мікашэвічамі, перакуліўся МАЗ з паўпрычэпам, які перавозіў бітум. ДТЗ адбылося у начы з 1 на 2 жніўня.***

«Супрацоўнікі ДАІ ўбачылі машыну перавернутай уверх коламі, з дэфармаванай кабінай, — распавёў Медыя-Палессю старшы дзяржаўтаінспектар Лунінецкага РАУС Андрэй Канапацкі. — Кіроўца цудам не пацярпеў. Узровень алкаголю ў паветры, якое выдыхнуў кіроўца склаў 1,5 праміле».

МАЗ належыць адной з фірмаў горада Масты Гродзенскай вобласці. Ён заправіў бітумам і вяртаўся дадому. Кіроўца, як мяркуецца, заснуў за рулём.

Паколькі бітум часткова праліўся, на месцы аварыі працавалі прадстаўнікі МНС, Дзяржпрамнагляду па Брэсцкай вобласці, экалагічных службаў.

Работы па падняцці МАЗа працягваліся на працягу ўсяго дня 2 жніўня праз вялікую вагу — агульная маса машыны з грузам перавышае 36 тон.

*nn.by*

— Ведаеш, я ўвесь час шукаю сэнс жыцця і ніяк не магу яго знайсці.
— І ў лядоўні няма?
— Няма…
— Значыць, мы яго ўчора дапілі.

## У Гомельскім раёне невядомыя спалілі будынак лесагаспадарчага ўпраўлення

***Агнём знішчаны дах будынка, пацярпелых няма***

Глыбокай ноччу ў панядзелак загарэўся будынак Гомельскага лесагаспадарчага ўпраўлення «Каранёўская эксперыментальная лясная база» ў Гомельскім раёне. Да моманту прыбыцця ратавальнікаў гарэў дах драўлянага адміністрацыйнага будынка.

«У выніку пажару агнём знішчаны дах будынка. Пацярпелых няма. Як мяркуецца, прычына пажару — падпал», - паведамілі ў Гомельскім абласным упраўленні МНС.

*nn.by*

## Пенсіянерка звалілася ў падвал пад балконам яе кватэры — выклікалі ратавальнікаў

***Раніцай 4 жніўня ў Гомелі пенсіянерка ўпала ў самавольна абсталяваны падвал пад балконам сваёй кватэры.***

н76-гадовая жанчына знаходзілася на прыступках лесвіцы падвала глыбінёй 2,5 метра і самастойна выбрацца не магла. На месца НЗ прыбылі работнікі хуткай дапамогі, якія выклікалі ратавальнікаў.

Работнікі МНС з дапамогай альпінісцкага рыштунку паднялі жанчыну з падвала. З дыягназам «глыбокая рэзаная рана правай нагі» пенсіянерка шпіталізавана ў бальніцу хуткай дапамогі, паведамілі БелаПАН у Гомельскім абласным упраўленні МНС.

*Алена Германовіч, БелаПАН*

# На 20 млн аштрафавалі жыхара Светлагорска за паход у магазін голым

***Да крымінальнай адказнасці прыцягнуты беспрацоўны жыхар Светлагорска за хуліганства (арт. 339 КК). Жыхар райцэнтра шакіраваў землякоў, калі з'явіўся ў магазін за выпіўкай голым, паведамляе УУС Гомельскага аблвыканкама.***

Грамадзянін, як інфармуе УУС, «знаходзячыся ў стане алкагольнага ап'янення, груба парушаючы грамадскі парадак і выказваючы яўную непавагу да грамадства, дэманструючы вельмі пагардлівае стаўленне да маральных каштоўнасцяў грамадства і добрапрыстойных паводзін, выйшаў голым з уласнай кватэры, размешчанай у мікрараёне Палессе на вуліцу, зайшоў у магазін «Асарці» і купіў спіртныя напоі, пасля чаго быў затрыманы супрацоўнікамі міліцыі».

Паводле інфармацыі УУС, мужчына на судзе поўнасцю прызнаў віну, чыстасардэчна раскаяўся, публічна папрасіў прабачэння і расказаў, што сапраўды напярэдадні такіх падзей ужываў спіртныя напоі.

«На наступны дзень вырашыў пахмяліцца, а адсутнасць на ім адзення яго не збянтэжыла. У дзённы час ён выйшаў голым са сваёй кватэры на вуліцу, пасля чаго ў тым жа выглядзе (гэта значыць голы) зайшоў у магазін, дзе ў прысутнасці грамадзян (у тым ліку і непаўналетніх) купіў спіртныя напоі. Пры гэтым на людзей вакол сябе ўвагі не звяртаў, палавыя органы нічым не прыкрываў і нікога не саромеўся. Пасля таго, як ён пакінуў магазін, быў затрыманы супрацоўнікамі міліцыі», — гаворыцца ў паведамленні.

«За ўчыненае злачынства абвінавачваны аштрафаваны на 100 базавых велічынь, што ў грашовым выражэнні складае 18 мільёнаў рублёў, а таксама падлягае прымусоваму лячэнню ад хранічнага алкагалізму», — удакладняе УУС Гомельскага аблвыканкама.

*БелаПАН*



# Мінская студэнтка за пяць месяцаў здзейсніла каля 15 крадзяжоў

***Супрацоўнікамі аддзела крымінальнага вышуку Заводскага РУУС Мінска затрыманая 20-гадовая студэнтка сталічнай ВНУ, якая за пяць месяцаў гэтага года здзейсніла парадку 15 крадзяжоў маёмасці.***

Як паведамляе ГУУС Мінгарвыканкама, са студзеня па май дзяўчына ў жаночым туалеце ВНУ выкрадала з торбачка студэнтаў і выкладчыкаў кашалькі і грошы.

Асоба зламысніцы выяўленая ў ходзе вышуковых мерапрыемстваў. Гэта 20-гадовая ўраджэнка Гомельскай вобласці. Скрадзеныя рэчы і грошы дзяўчына выкарыстоўвала ў асабістых мэтах.

У дачыненні да затрыманай распачата справа па ч. 2 арт. 205 КК (крадзеж).

*БелаПАН*

# У Гомелі гарэла кафэ «Сэрца анёла»

***Як паведамляе Гомельскае абласное ўпраўленне МНС, 12 жніўня ў 22.04 у цэнтр аператыўнага кіравання Гомельскага гарадскога аддзела па НС ад прахожага паступіла інфармацыя пра пажар у кафэ «Сэрца анёла», размешчаным на вуліцы Кісялёва, у раёне чыгуначнага вакзала. З прыездам да месца выкліку гомельскіх ратавальнікаў было ўстаноўлена, што гарыць дах кафэ.***

На момант узнікнення пажару кафэ не працавала, праводзіўся касметычны рамонт. У выніку пажару знішчаны дах і столевае перакрыцце на плошчы 130 квадратных метраў, пашкоджана маёмасць унутры кафэ. Пацярпелых няма.

а пажару ўстанаўліваецца.

*БелаПАН*

# Жыхар Жлобіна спрабаваў спаліць сябе ў кватэры шматпавярховага дома

***Ратавальнікі прадухілілі спробу самаспалення жыхара Жлобіна, паведамілі ў прэсслужбе Гомельскага абласнога ўпраўлення МНС. Паведамленне пра неадэкватныя паводзіны жыхара шматпавярховага дома паступіла ад суседзяў у дзяжурную частку міліцыі.***

Паводле відавочцаў, 53-гадовы мужчына абліў сябе і маёмасць у кватэры бензінам, адкрыў ўваходныя дзверы, сеў у крэсла і, трымаючы ў руках запалкі, пагражаў падпаліць сябе і маёмасць.

Работнікі МНС пры дапамозе ствала РСК-50 спынілі спробу запаліць запалку. Пасля чаго міліцыянты затрымалі мужчыну. На выпадак магчымага узгарання з дома эвакуіравалі 12 жыхароў.

Праводзіцца праверка. Высначаюцца абставіны і матывы ўчынку.

*Паводле БелТА*

# Жыхар Светлагорска памёр пасля ўкусу асы

***На дачы пад Светлагорскам аса ўкусіла мужчыну, жыхара райцэнтра. Следчыя праводзяць праверку па факце гібелі чалавека.***

Як паведаміла афіцыйны прадстаўнік упраўлення Следчага камітэта па Гомельскай вобласці Марыя Крываногава, мужчына з сужыцелькай быў на дачы ў знаёмых. Пасля вяртання з вуліцы ў дом жыхар Светлагорска сказаў, што яго ўкусіла аса, і папрасіў выклікаць «хуткую». У ахвяры насякомага апух твар. Па дарозе ў бальніцу мужчына памёр ў карэце хуткай дапамогі.

Паводле папярэдняй інфармацыі, жыхара райцэнтра раней кусалі восы, і ён пасля гэтага лячыўся ў бальніцы.

*БелаПАН*



ГумНо СПАРТЫУНАЕ

# Айчынны спорт – па-беларуску

***Каардынатар грамадскай ініцыятывы “Справаводства па-беларуску” Ігар Случак не стамляецца папулярызаваць беларускую мову ў айчынным спорце. Напачатку футбольнага сезону адпаведныя лісты ён даслаў у футбольныя клубы вышэйшай лігі. А гэтымі днямі падобныя лісты былі накіраваныя ў клубы першай і другой лігі.***

– Спадзяюся, што ў гэтым годзе адказаў будзе больш. Хочацца спадзявацца, што іншыя каманды таксама паглядзяць на добрыя прыклады тых клубаў, якія ўжо выкарыстоўваюць беларускую мову, як тое ж “Дынама-Мінск”, футбольны клуб “Гомель”, бабруйская “Белшына”, хакейны клуб “Дынама-Мінск”.

Хочацца, каб клубаў, якія выкарыстоўваюць беларускую мову, стала нашмат болей. “Бачу, што гэтая справа не марная, – кажа Ігар Случак, – з кожным годам усё больш футбольных клубаў станоўча адказваюць на мае прапановы, і беларуская мова шырэй пачынае ужывацца ў спартовым жыцці краіны”.

*Васіль Кроква, Беларускае Радыё Рацыя*



# БАТЭ страціў два пункты ў матчы з «Гомелем»

***У стартавым матчы 16-га тура футбольнага чэмпіянату краіны 14 жніўні БАТЭ згуляў на выездзе з «Гомелем» унічыю 0:0.***

Такім чынам, у мінскага «Дынама» з'явіўся шанец скараціць адставанне ад лідэра да трох пукутаў.

Астатнія сустрэчы тура пройдуць 15—17 жніўня: «Дынама» Мн — «Шахцёр», «Белшына» — «Нёман», «Слуцк» — «Мінск», «Дынама» Бр — «Граніт», «Нафтан» — «Віцебск», «Славія» — «Тарпеда-БелАЗ».

Цяпер у каманд: БАТЭ — 39 пунктаў (16 гульняў; розніца мячоў 22/05), «Дынама» Мн — 33 (15; 23/7), «Шахцёр» — 27 (15; 26/11), «Мінск» — 26 (15; 19/12), «Белшына» — 25 (15; 24-13), «Граніт» — 24 (15; 18-22), «Дынама» Бр — 19 (15; 16-22), «Тарпеда-БелАЗ» — 18 (15; 16-20), «Нёман» — 16 (15; 11-19), «Славія» — 16 (15; 21-26), «Нафтан» — 16 (15; 13-18), «Гомель» — 15 (16; 12-19), «Слуцк» — 10 (15; 10-18), «Віцебск» — 9 (15; 12-31).

*nn.by*

# На Дзень дэсантніка ў Гомелі адключаюць фантаны

***На прафілактыку.***

Пяты год запар у Гомелі на Дзень дэсантніка адключаюць фантаны, інфармуе Onliner.by. Сёлета, 2 жніўня па распараджэнні гарвыканкама яны зноў не будуць працаваць. На прадпрыемстве «Гомельская гарадская ЖКГ» паведамілі, што фантаны адключаюць, бо «запланаваныя прафілактычныя працы».

У горадзе таксама не будзе афіцыйных забаўляльных мерапрыемстваў для былых байцоў мабільных сіл. Ужо некалькі год маладыя людзі збіраюцца ў зарэчнай зоне Сожа або проста гуляюць па горадзе.

Зрэшты, тыя, хто служыў у сапраўдных паветрана-дэсантных войсках, даўно не захапляюцца купаннем у фантанах. А маладзейшыя ўсё яшчэ падыходзяць да асушаных месцаў традыцыйнага купання.

*Еўрарадыё*

- Дзякуй вялікі!
- Ды няма за што.
- Тады не дзякуй




на GNavinki@gmail.com

# Прапалі два беларусы, што паехалі на заробкі ў Расію

***Жыхар Гомельскай вобласці Будовіч Уладзімір Анатольевіч і жыхар Брэстчыны Натынчык Юрый Міхайлавіч з'ехалі на заробкі ў Расію і перасталі выходзіць на сувязь з сваякамі. Іх шукаюць сям'я, міліцыя і валанцёры пошукавага атрада «Анёл».***

Будовіч Уладзімір Анатолевіч 1993 года нараджэння з'ехаў на заробкі ў Расію ў г. Далгапрудны і сувязь з ім 8 жніўня абарвалася.

Прыкметы: рост 170—175, хударлявага целаскладу, валасы цёмна-русыя, вочы карыя. Можа насіць бараду, як на фота.

Асаблівыя прыкметы: шнар на ілбе, на левым перадплеччы ёсць няскончаная татуіроўка ў выглядзе абстракцы.

Жыхар Пінска Натынчык Юрый Міхайлавіч, 1981 года нараджэння, паехаў на заробкі ў Маскву. Апошні раз на сувязь выходзіў 27 ліпеня 2015.

*nn.by*

M&S MEDIA

Неперыядычнае выданне
Інфармацыйна-забаўляльная газета
«Гомельскія Навінкі Жнівень 2015»
Уладальнік выдання - M&S Media

Заснавальнік: Гуан Карлас
Галоўны рэдактар: Лявон Грос
Галоўны дызайнер: Аляксей Венецыянаў

246006, г. Гомель, вул. Замаева, 69
Рэдакцыя “Гомельскія Навінкі 2015”

Надрукавана на папяровай фабрыцы “ГумНо”, г. Клінцы, вул. Мажаеўская, 17б.




Тыраж: 250 асобнікаў.
Распаўсюджваецца безкаштоўна.

Мы ў сацыяльных сетках:
***vk.com:*** gnavinkicom
***facebook.com:*** spravavodstva

Наш ***e-mail:*** gnavinki@gmail.com

M&S MEDIA